ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431

Год XXXI Но. 308-9 Нью Ёрк — студз.-люты — 1983 — Jan.-Feb. — New York Vol. XXXI № 308-9

## АСУДЖЭНЬНЕ РУСЫФІКАЦЫІ Й КАЛЯНІЯЛІЗМУ Ў СССР

Арганізацыя, што мае назоў „Эўрапейская Канфэрэнцыя Правоў Чалавека й Самавызначэньня", старшынём якое сябра швайцарскага парляманту др. Э. Элер, правяла 10-11 кастрычніка 1982 г. канфэрэнцыю ў горадзе Люцэрне (Швайцарыя) на тэму русыфікацыі й каляніялізму ў СССР. Ад Беларусаў на гэтай канфэрэнцыі браў удзел заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу сп. Уладзімер Бортнік.

На канфэрэнцыі было прачытана 6 рэфэратаў на тэмы: „Савецкая нацыянальная палітыка", „Савецкі фэдэралізм і каляніялізм" і 4 рэфэраты пра вынікі савецкай русыфікацыйнай і каляніяльнай палітыкі на тэрыторыях рэспублік нерасейскіх народаў СССР.

Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю, у якой, між іншага, кажацца:

„Канфэрэнцыя зьвяртае ўвагу грамадзтва на неаспрэчны факт, што савецкія ўрады нерасейскіх краінаў ня былі праведзеныя са згоды гэтых народаў. Ад дзесяцігодзьдзяў гэтым народам, як і самому расейскаму народу, забаронена праводзіць свабодныя выбары. Агульна прызнанае права на самавызначэньне народаў, што прыгнятаюцца Масквой, ня мае ніякага застасаваньня.

У наш час, калі адбыўся распад Заходніх каляніяльных імпэрыяў і каляніяльныя тэрыторыі атрымалі дзяржаўную незалежнасьць, дзесяткі нацыяў і народнасьцяў далей цярпяць прыгнечаньне ў Савецкім Саюзе. Фэдэратыўная структура Савецкага Саюзу становіць сабой толькі фасад, за якім хаваецца моцна цэнтралізаваная таталітарная аднапартыйная дзяржава.

Савецкі Саюз, з аднаго боку, сыстэматычна парушае шмат якія міжнародныя ўмовы, што гарантуюць правы чалавека, а з другога — праводзіць усімі сродкамі русыфікацыю нерасейскіх народаў. Маштаб русыфікацыі, якая праводзіцца з большай сілай, адлюстроўваецца ўжо тым фактам, што апошнім часам расейская мова яшчэ больш інтэнсыўна чымся дагэтуль ужываецца ў дзіцячых садкох нерасейскіх народаў як мова штодзённага абыходку. Падобныя мерапрыёмства дасягаюць такой практыкі, дзякуючы якой працы для атрыманьня навуковай ступені дапушчаюцца толькі ў расейскай мове. Шматлікія далейшыя дыскрымінацыйныя указы фармулююцца так, каб разбураць нацыянальныя асаблівасьці нерасейскіх народаў, што ў выніку вядзе да ўпадку гэтых народаў. Урадава праводжанае ўсхваляньне расейскай мовы й гарантыя прывілеяў чужым пасяленцам ствараюць у Савецкім Саюзе пагрозьлівы расізм, а адначасна мовы нерасейскіх народаў ды іхныя культуры дыскрымінуюцца.

Ня менш паважную пагрозу існаваньню гэтых народаў становіць сыстэматычнае засельваньне чужынцамі іхных тэрыторыяў, перш-наперш Расейцамі. Побач са шмат якімі іншымі мерапрыёмствамі, асабліва індустрыялізацыя стварае патрэбу ў рабочай сіле, якая далёка перавышае магчымасьці дадзенага краю. Штучна створаныя нястачы ў рабочай сіле масава запаўняюцца пасяленцамі, галоўна Расейцамі, якія карыстаюцца цэлым шэрагам прывілеяў.

У выніку сыстэматычнага пасяленьня чужынцаў, пераважна Расейцаў, у некаторых рэспубліках, як напрыклад у Казахскай ССР, паводле перапісу 1979 г. колькасьць мясцовага насельніцтва зьнізілася да 36%, Расейцаў там 40%. У Латвіі колькасьць Латышоў зьнізілася да 53% — Расейцаў-жа там 32.8%, у Эстоніі Эстонцаў — 64.7%, Расейцаў — 27.9% і г.д.

Праз заснаваньне індустрыі, неадпаведнай для мясцовых умоваў сваймі памерамі, у нерасейскіх савецкіх рэспубліках праводзіцца каляніяльная залежнасьць ад Масквы як у сыравіне, гэтак і ў распадзе ле гатовай прадукцыі.

У шмат якіх мясцовасьцях прыродныя багацьці нерасейскіх народаў эксплюатуюцца цэнтраляй плянаваньня безь ніякае ўвагі на навакольнае асяродзьдзе. Таксама залежы прыроднага газу, якія выклікаюць ажыўленае зацікаўленьне Заходняга сьвету, знаходзяцца пераважна на тэрыторыі нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Атрыманыя прыбыткі з эксплюатацыі гэтых прыродных багацьцяў служаць далейшай разбудове савецкага ўзбраеньня й падтрыманьню каляніяльнага рэжыму. Тэрыторыя нерападках служыць для разбудовы ваенных базаў, якія накіраваны сейскіх народаў у шмат якіх вы- супраць Заходняй Эўропы.

Канфэрэнцыя зьвяртае асаблівую увагу:

1. на права на свабоду й свабоднае самавызначэньне народаў, што паняволеныя Савецкім Саюзам;
2. дамагаецца ад кіраўніцтва Савецкага Саюзу безадкладна спыніць палітыку русыфікацыі, якая мае на мэце разбурыць нацыянальнае існаваньне нерасейскіх народаў,
3. асуджае эксплюатацыйна-каляніяльную палітыку ў нерасейскіх краінах;
4. зьвяртаецца да сусьветнага грамадзтва зь пільнай просьбай падтрымаць законныя дамаганьні свабоды народаў Савецкага Саюзу.

Люцэрн, 10 кастрычніка 1982 г.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Пятае Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, што адбылася ў Сыднэі ад 29. XII. 1982 г. да 2. I. 1983 г.**

**Мы, Беларусы, удзельнікі Пятае Сустрэчы, разгледзеўшы й абмеркаваўшы сытуацыю нашага народу, прыймаем наступныя пастановы:**

**1. Мы войстра пратэстуем супраць захопніцкае й каляніяльнае палітыкі Савецкага Саюзу, супраць патаптаньня правоў чалавека, эканамічнае эксплюатацыі ды рэлігійнага й нацыянальнага перасьледваньня ў нашай паняволенай Бацькаўшчыне.**

**2. Мы выказваем непахісную волю й надалей працаваць над адбудовай сувэрэннае й незалежнае беларускае дзяржавы.**

**3. Мы заклікаем усе вольныя народы сьвету дапамагчы паняволеным сяньня народам у іхным змаганьні за людзкія правы й волю.**

**4. Мы, Беларусы Аўстраліі, будзем працаваць дзеля духовага дабрабыту Беларусаў Аўстраліі й будзем узгадоўваць нашы новыя пакаленьні ў гэтым духу.**

**Сыднэй, Аўстралія, 2 студзеня 1983 г.**

**Пятая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі**

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ СЬВЯТАРОЎ



**Сьвяты Айцец з групай беларускіх сьвятароў. Другі справа — сьв. пам. а. Фэлікс Журня.**

Група беларускіх каталіцкіх сьвятароў правяла ў часе ад 29 лістапада да 5 сьнежня ў Рыме абмеркаваньне стану Каталіцкай Царквы й пастырскай працы сярод Беларусаў на Бацькаўшчыне й на эміграцыі год па сьмерці Ўладыкі Часлава Сіповіча. З гутарак выявілася, що наагул Царква знаходзіцца ў сумным стане і што пастырская праца напатыкаецца на вялікія цяжкасьці, перш-наперш з прычыны нястачы сьвятароў. Дзеля гэтага стараньні знайсьці адпаведных кандыдатаў да сьвятарскага стану станоцяцца справай першай вагі.

Калі йдзе пра Царкву на Бацькаўшчыне ,дык яна там мае небеларускі характар і таму ёсьць небясьпека, што яна станецца нечым чужым, асабліва для маладога нацыянальна сьведамага пакаленьня. Такі стан рэчаў можа толькі спрыяць пашырэньню афіцыяльнай бязбожніцкай прапаганды сярод каталіцкай часткі насельніцтва. Палажаньне можа палепшыцца толькі тады, калі Царква на Беларусі будзе мець уласных беларускіх сьвятароў, якія будуць весьці пастырскую працу ў роднай мове. Асабліва патрэбны свой беларускі біскуп.

На папскай аўдыенцыі ў сераду 1 сьнежня беларускія сьвятары мелі нагоду сказаць Сьвятому Айцу тое, што ім ляжыць на сэрцы і перадаць мэмарыял у справе стану Царквы на Беларусі ,а таксама нумар „Журналу беларусаведы" з нэкралёгам пра Ўладыку Часлава Сіповіча. Сьвяты Айцец адказаў, што справа Царквы на Беларусі заўсёды ў ягоных думках і малітвах, і прасіў перадаць усім Беларусам і іхным сем'ям, дзе-б яны ні жылі, ягонае апостальскае блаславенства.

## УШАНАВАЛІ СТАРШЫНЯЎ РАДЫ БНР

15-га студзеня ў сыботу вечарам сёлета ў Таронцкім Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры адбыўся вечар — можна яго назваць нават інаўгурацыйным вечарам — прысьвечаны нававыбранаму старшыню Рады БНР др. ген. Язэпу Сажычу. Зьбралася поўная заля мясцовых і далейшых гасьцей. Праўда, далейшых прыехала малавата, бо, як наўмысна, увечары і ўначы перад гэтым выпаў добры сьнег, і ў Таронта завітала запраўдная сьнежная зіма. На вялікі жаль, з прычыны такой пагоды й фізычнай нядужасьці, ня змог прыехаць і адзін галоўны госьць — былы старшыня Рады БНР, др. В. Жук-Грышкевіч, што жыве якіх 65 міль ад Тронта, у Бэры. Вечар плянаваўся для былога й цяперашняга старшыняў БНР, каб, як казалі, падзякаваць за вялікую працу папярэдніку ды падмацаваць словам і дзеяньнем нававыбранага.

Высокапачэсны Архіепіскап Мікалай, што быў ударозе ў духоўных патрэбах вернікаў, крыху спазьніўся й таму прысутныя пачалі вечар агульнай малітвай „Ойча наш". Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. В. Касьцюкевіч адкрыў вечар, прадставіў гасьцей за галоўным сталом і нававыбранага старшыню Рады БНР, якому ўсе прысутныя, устаўшы, засьпявалі „Сто год". Пасьля спажытку вячэры пачаліся прамовы.

У сваім слове др. Б. Рагуля выразіў жаль, што ня змог прысутнічаць др. Жук-Грышкевіч і каротка схарактарызаваў ягоную адданую працу для БНР і беларускага народу ды выказаў яму агульную падзяку за гэта.

Др. Язэп Сажыч — шыракаведамы й вельмі заслужаны Беларус на эміграцыі. Ён шмат сілаў аддаў грамадзка-палітычнай і рэлігійнай працы, а ў часе вайны ўдома займаўся найбольш вышкаленьнем беларускіх вайскоўцаў.

Амаль усе наступныя прамоўцы — М. Ганько, К. Акула, Ул. Цялеш, В. Навіцкі, Я. Баран і М. Артон — зь вялікім задаваленьнем адзначылі ўдалы выбар апошняй Сэсіяй Рады БНР у Нью Ёрку др. Я. Сажыча з- старшыню Рады БНР ды жадалі яму посьпехаў у працы, абяцалі падтрымку.

Сам-жа др. Сажыч, што гаварыў, як і належалася яму, крыху абшырней, найперш пашкадаваў, што ягоны выдатны папярэднік др. В. Жук-Грышкевіч ня змог прысутнічаць на вечары. Ён адзначыў вялікія заслугі др. В. Жука-Грышкевіча ў палітычнай працы, выразіў надзею, што ягоны папярэднік паможа яму ў пераходны час парадамі й практычнымі спасьцярогамі. Старшыня БНР падзякаваў др. В. Жуку-Грышкевічу за вялікую працу й сам абяцаў аддаць свае сілы й час беларускаму народу на вялікім і цяжкім шляху беларускага вызвольнага руху.

Ён крыху быў ашаломлены выбарам яго на старшыню Рады БНР, — казаў др. Сажыч. Як-ніяк, гэта вялікая адказнасьць і ня меншы гонар ад суродзічаў на эміграцыі, што даверылі такую ношу. „Хоць я, як вам ведама ўсім, — казаў прамоўца, — калішні вайсковец, але ў палітычных поглядах лібэрал. Буду старацца супрацоўнічаць з усімі Беларусамі, якія падтрымліваюць ідэю БНР, у тым ліку і з канструктыўнай апазыцыяй. Пастараюся таксама, каб прыцягнуць да працы й моладзь".

Старшыня Рады БНР выказаў думку, што Рада БНР ніяк ня можа абыякава ставіцца да таго, што адбываецца цяпер у БАПЦ. Ён сам, як чалавек, што шмат працы аддаў для Царквы, надалей будзе старацца памагчы ёй пераадолець цяперашнія цяжкасьці й поўнасьцяй захаваць сябе для дабра беларускага народу.

Др. Я. Сажыч падзякаваў нашым мілым, руплівым і працавітым гаспадыням за надзвычайную, смачную, падрыхтаваную імі вячэру. Падзяка тая належалася найперш Марыі Ганько, Веры Радэк, сп-ням Цялеш і Сільвановіч.

Старшыня В. Касьцюкевіч падзякаваў усім выдатным гасьцём і ўсёй грамадзе за прысутнасьць і пасьля вечар прадаўжаўся танцамі.

Назаўтра ў нядзелю ў царкве адбылася сьв. Літургія і там-жа Высокапачэсны Архіепіскап Мікалай прывітаў нававыбранага старшыню Рады БНР, пажадаў яму ўдачаў у працы, адзначыў ягоныя выдатныя заслугі ў працы для БАПЦ, а хор адсьпяваў яму „Многая лета".

Пасьля гэтага адбылася паніхіда за душу нядаўна адыйшоўшага на вечны супачын у Аўстраліі нашага іншага выдатнага суродзіча й грамадзкага ды культурнага працаўніка сьв. пам. Аркадзя Качана.

**К. Акула**

## ВЕРШ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Падступае паволі зіма ўжо да хатаў,
І пасыплецца з хмараў густы сьнегапад.
Як вякі, як штагод падыходзяць к нам Сьвяты,
Дык вітаем Вас сяньня са Сьвятам Каляд!
Шмат нязьдзейсьненых спраў і тугі чалавечай
Ды пакрыўджанай долі у нашым жыцьці.
Мне да болю шкада, што ў Сьвяты гэты Вечар
Вам да нас, да сям'і на Куцьцю ня прыйсьці.
Калі першую зорку угледзім з прысадзьдзя
І запаліць ялінку унук малады,
Урачыста за стол мы калядны засядзем,
Як вякі засядалі бацькі і дзяды.
І разьдзелім Куцьцю і разьдзелім трывогі,
І любоў да усіх, хто хоць думкай пры нас.
Зложым сэрцы ля ножак Дзіцятка малога,
Ўславім Маці Ягонай прачысты абраз.
Дык са Сьвятам, Браты, з Новым Годам, Сятронкі,
Няхай Бог блаславіць на чужыне Ваш дом,
Шлем Вам нашу любоў і паклон для старонкі,
Дзе сабраліся Вы за сьвяточным сталом.
Ў яcьлі йдуць пастушкі неразлучнай чалядкай,
Каралі, мудрацы дзесь з далёкіх дарог.
Кожны дар свой прыносіць Сьвятому Дзіцятку
І усюды пяюць: „З намі Бог! З намі Бог!"
З намі Бог, як надзея ў жыцьці чалавечым,
Бо дзе Бог найсьвяцейшы, там мір і спакой.
З намі Бог у Калядны, Сьвяты гэты Вечар,
З намі Бог ў вадзіноце, ў хвіліне цяжкой.
Няхай шчасьце усюды, дабро і дастатак,
Лад і нашая згода у кожнай сям'і,
З Новым Годам, сябры, з гэтым радасным Сьвятам!
Шлем любоў Вам з радзімай, далёкай зямлі!

1982 г. **Л.**

## СЫМПОЗІЮМ І ВЫСТАЎКА

**„Беларуская культура й традыцыі ў Амэрыцы"**

У сыботу 23 красавіка сёлета пры Ратгерскім унівэрсытэце ў Нью Брансьвіку (Voorhees Hall, Room 105) будзе прачытаная сэрыя дакладаў пра Беларусаў і беларускія традыцыі ў Амэрыцы. Сымпозіюм пачне сваю працу а 10-ай гадзіне ўраньні (да 4-ай гадз. пап.). Таго-ж дня (а 5-ай гадз. пап.) у ўнівэрсытэцкім музэі мастацтва (Jane Voorhees Zimmerli Art Museum, corner of Hamilton and George Sts.) адчыніцца выстаўка беларускага мастацтва. Арганізуюць гэтую падзею ньюджэрзійскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларуска-Амэрыканскае Таварыства Мастацтваў у Нью Джэрзі ды ньюджэрзійская сэкцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Усе ветліва запрашаюцца як на сымпозіюм, гэтак і на выстаўку.

Па інфармацыю зварачайцеся да кіраўнічкі гэтага праекту сп-ні Галіны Русак або да БАЗА на адрыс:

Byelorussian-American Ass'n
in New Jersey
9 River Road
Highland Park, N.J. 08892
Tel. (201) 247-4490

# ТЫДЗЕНЬ СЛАВЯНСКАЙ СПАДЧЫНЫ

Леташні гадавы фэстываль Славянскай Спадчыны ў Нью Ёрку трываў ад 12-га да 21-га лістапада. Арганізатарам фэстывалю была Рада Славянскае Спадчыны ў Амэрыцыі, у якую ўваходзяць прадстаўнікі наступных нацыянальнасьцяў: Баўгараў, Беларусаў, Македонцаў, Палякоў, Расейцаў, Славакаў, Славэнцаў, Украінцаў і Чэхаў.



**Дэлегаты Рады Славянскай Спадчыны ў ЗША прымаюць Праклямацыю ад старшыні Гарадзкой Управы сп. А. Штайна. Справа А. Шукелайць і Р. Станкевіч.**

Ад Беларусаў у Раду ўвайшла Раіса Станкевіч з функцыяй сакратаркі выканальнага камітэту. У паседжаньнях арганізацыі бяруць удзел ад Беларусаў сп.сп. А. Шукелойць і В. Тумаш (малодшы).

Тыдзень Славянскай Спадчыны пачаўся ў пятніцу 12-га лістапада, калі сябры Рады атрымалі праклямацыю ў кабінэце Андру Штайна, старшыні гарадзкое ўправы Мангатану. Таго-ж дня адбыўся Беларускі Вечар у памешканьні Украінскага Інстытуту. Вечар быў зладжаны галоўнай управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і быў прысьвечаны 100-годзьдзю ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Адкрыў вечар др. Янка Запруднік, які ў сваёй прамове зазначыў важную ролю Купалы й Коласа ў сучасным літаратурным працэсе Беларусі. Сп-ня Зора Кіпель прачытала цікавы рэфэрат пра верш „А хто там ідзе?" Янкі Купалы й пераклады яго ў 82 мовы. На ейную просьбу прысутныя госьці прачыталі гэты верш у славацкім і славэнскім перакладах, а др. Я. Запруднік — пабеларуску.

Др. Вітаўт Кіпель у сваім дакладзе зазначыў важнасьць пашырэньня твораў Янкі Купалы й Якуба Коласа на Захадзе і выданьня бібліяграфіі працаў пра Янку Купалу заходніх дасьледнікаў, якая рыхтуецца ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва.

У нядзелю 14-га лістапада, у прыгожай аўдыторыі Інстытуту Моды ў Нью Ёрку адбыўся канцэрт народных танцаў. Танцавальны ансамбль Арганізацыі Амэрыканска-Беларускае Моладзі — „Васілёк" пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамано выступіў на канцэрце з трыма беларускімі танцамі—„Полька Янка", „Карагод" і „Лявоніха", да якіх падсьпеўваў Багдан (Данчык) Андрусышын. Данчык таксама вельмі прыгожа выканаў колькі беларускіх песьняў.

Афіцыйнае адкрыцьцё Славянскага Тыдня адбылося ў панядзелак 15-га лістапада. На адкрыцьці прамаўлялі: старшыня гарадзкое ўправы Мангатану Андру Штайн, кангрэсмэн Біл Грын і Сьцяпан Басараб, старшыня Славянска-Амэрыканскай арганізацыі з Вашынгтону. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад губэрнатара штату Нью Ёрк Г'ю Кэры, сэнатараў Альфонса Д'Амата, Патрыка Мойнігана ды кангрэсмэна Джозэфа Адаба.



**Раіна Сямёнава й Вітаўт Тумаш у танцы „Полька Янка" ансамбля „Васілёк"**

Асыстэнт мэра гор. Нью Ёрку Эдварда Коча сп. Гэрбэрт Рыкман у сваёй прамове на адкрыцьці, пасьля прачытаньня праклямацыі, выдадзенай мэрам Кочам, зазначыў, што захаваньне свае мовы й нацыянальнай культуры вельмі важнае, бо яно нас робіць мацнейшымі, бо толькі тады, калі мы застанёмся вернымі сваім нацыянальным каранём, мы станемся запраўднымі Амэрыканцамі.

У чацьвер 18-га лістапада адбыўся літаратурны вечар з удзелам ад Беларусаў Багдана Андрусышына, які памастацку прачытаў у беларускай і ангельскай мовах уступ да паэмы „Сымон Музыка" Якуба Коласа і верш Анатоля Вярцінскага „Кожны чацьверты".

Ад 15-га да 20-га лістапада трывала мастацкая выстаўка, на якой гэтым разам былі выстаўленыя абразы беларускіх мастакоў Пётры Мірановіча й Ст. Тамары (Кольбы).

На выстаўцы народнага мастацтва на працягу двух дзён (20 і 21 лістапада) экспанаваліся вырабы васьмёх славянскіх народаў: беларускія экспанаты былі ад сп-няў З. і Р. Станкевіч, Ю. Андрусышынай ды ад сп. А. Шукелайця.

Належыцца падзяка за смачнае печыва сп-ням Я. Каханоўскай і А. Русак. Таксама падзяка належыцца за дапамогу пры выстаўцы і за інфармацыі пра Беларусь і экспанаты сп-ням Я. Каханоўскай, Ю. Андрусышынай, сп.сп. А. Міцкевічу і А. Шукелайцю.

У часе Тыдня адбывалася выстаўка ў будынку Ньюёркскай Публічнай Бібліятэкі на 5-ай Авэню, прысьвечаная сотым угодкам ад нараджэньня Я. Купалы й Я. Коласа.

Інфармацыя аб праграме Тыдня была і сёлета выдрукаваная ў шмат якіх англамоўных і славянскіх газэтах Нью Ёрку, як „Дэйлы Ньюз", „Новое Русское Слово" ды іншыя.

Рэпартаж пра Тыдзень перадалі ў краі Усходняе Эўропы радыястанцыі „Свабода", „Вольная Эўропа", „Голас Амэрыкі".

Наступнай імпрэзай Рады Славянскай Спадчыны будзе канцэрт 26-га лютага сёлета ў прыгожай залі Carnegie Recital Hall у Нью Ёрку. Ад Беларусаў, як і ў мінулым годзе, выступіць тэнар Багдан Андрусышын.

Спадзяюся, што й гэтым разам Беларусы Нью Ёрку й ваколіцаў шматлюдна падтрымаюць гэтую імпрэзу.

**Раіса Станкевіч**

---

*БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ*

*— Галоўная Ўправа —*

*— Управа Акругі Нью Ёрк — Управа Аддзелу ў Нью Джэрзі —*

*АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ*

*запрашаюць на*

*ЎРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 65-ЫХ УГОДКАЎ*

АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

АКТАМ 25 САКАВІКА 1918

*што адбудзецца ў*

*НЯДЗЕЛЮ, 27 САКАВІКА 1983 г. (пачатак а 2-ой гадз. п/п.)*

*у залі „Стайвэсант Рум" гатэлю Гэлloран Гаўз*

*Лэксынгтан Авэню (паміж 48-й і 49-й вул.)*

*ў Мангэтэне, Нью Ёрк*

*Даезд падземкай: лінія ІРТ (АйАрТы) да 51-ай вул.*

---

**Д-ра ВІНЦЭНТА ЖУКА-ГРЫШКЕВІЧА**

**Актыўнага палітычнага дзеяча, змагара за Незалежнасьць Беларусі й шматгадовага былога Старшыню Рады Беларускае Народнае Рэспублікі шчыра вітае з 80-мі ўгодкамі жыцьця й 60-мі ўгодкамі палітычна-грамадзкае дзейнасьці ды добрага здароўя жадае**

**ПРЭЗЫДЫЮМ РАДЫ БНР**

---

**Д-ра ВІНЦЭНТА ЖУКА-ГРЫШКЕВІЧА**

**Літаратураведа й гісторыка, сябру Беларускага Інстытуту Навукі Мастацтва з 80-мі ўгодкамі жыцьця вітае й добрага здароўя ды плённае далейшае працы зычыць**

**УПРАВА БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

---

**Д-ра ВІНЦЭНТА ЖУКА-ГРЫШКЕВІЧА**

**Заслужанага й няўтомнага беларускага палітычнага й культурна-грамадзкага дзеяча, былога Старшыню Рады Беларускае Народнае Рэспублікі й гарачага патрыёта шчыра вітаюць з 80-мі ўгодкамі жыцьця й 60-мі грамадзкае працы ды зычаць добрага здароўя і ўсялякіх удачаў у асабістым і грамадзкім жыцьці**

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
**РЭДКАЛЕГІЯ ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС"**

---

# КУПАЛА-КОЛАСАЎСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ У ЛЁНДАНЕ

Сьвяткаваньне ў Лёндане сотых угодкаў з дня нараджэньня вялікіх беларускіх песьняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа мела форму навуковага сэмінару, які адбыўся ў суботу 9 кастрычніка ў Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны. Сэмінар быў наладжаны супольнымі стараньнямі Бібліятэкі, Англа-Беларускага Таварыства і Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

З увагі на тое, што больш за 60 удзельнікаў зьехаліся з шасьцёх розных краінаў (Ангельшчына, Францыя, Нямеччына, Польшча, ЗША і Канада) і гэтулькі-ж унівэрсытэтаў (Лёндан, Рэдынг, Оксфард, Лівэрпуль, Шэфільд і Варшава), сэмінар можна назваць запраўды міжнародным.

Кіраваў працу сэмінару старшыня Англа-Беларускага Таварыства, выкладчык Рэдынгскага ўнівэрсытэту праф. Джэймс Дынглей, якому даводзілася ўсьцях пераходзіць з ангельскай мовы на беларускую й наадварот, у залежнасьці ад патрэбы.

Ранішняя сэсія пачалася дакладам праф. Ант. Адамовіча зь Нью Ёрку на тэму „Купала-Коласаўскае стагодзьдзе". Дакладчык даў абраз разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху й беларускае культуры наагул, пачынаючы ад 1882 г., калі радзіліся Купала і Колас, да сёньняшняга дня. Ён прааналізаваў працэс станаўленьня і росту талентаў Купалы і Коласа і пастараўся вызначыць тое унікальнае месца, якое яны займаюць у беларускім нацыянальным руху.

Ведамы дасьледчык беларускае літаратуры, прафэсар Лівэрпульскага ўнівэрсытэту Арнольд МакМільлін, зрабіў апісаньне рукапісаў Купалы й Коласа, якія знаходзяцца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, спыняючыся асабліва на рукапісах тых твораў, якія дагэтуль ніколі не друкаваліся.

Пасьля палудзённага перапынку загадчык катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту, др. Аляксандар Баршчэўскі, зрабіў цікавы й зьмястоўны даклад на тэму „Рамантычныя элемэнты ў паэме Якуба Коласа **Сымон музыка**", накрэсьліўшы адначасна агляд эвалюцыі поглядаў на гэты твор у беларускай літаратурнай крытыцы.

Мастак Барыс Забораў, які цяпер жыве ў Парыжы й сярод графічных працаў якога выдатнае месца займаюць ілюстрацыі кнігаў „Выбраная лірыка" Янкі Купалы (Мн., 1967) і „Сымон музыка" Якуба Коласа" (Мн., 1972), у дакладзе „Купала і Колас вачыма мастака" вельмі цікава расказаў аб сваіх пошуках адпаведнай мастацкай формы, сугучнай із зьместам і духам твораў беларускіх песьняроў.

Дырэктар Бібліятэкі імя Францішка Скарыны, а. Аляксандар Надсон, зрабіў даклад на тэму „Купала й Колас у сучаснай беларускай савецкай крытыцы", у якім паказаў, як, побач з афіцыйнымі намаганьнямі прадставіць беларускіх песьняроў як савецкіх паэтаў і навет „інтэрнацыяналістаў", шмат якімі беларускімі літаратурнымі крытыкамі ,асабліва з малодшага пакаленьня, робяцца спробы глянуць новымі вачыма на іхную творчасьць і глыбей асэнсаваць іхную спадчыну.

Нарэшце ангельская паэтка й ведамая перакладчыца твораў беларускай паэзіі на ангельскую мову Вера Рыч расказала аб праблемах і цяжкасьцях перакладчыка паэзіі Купалы й Коласа, калі ён хоча ня толькі перадаць як найбольш дагламоўнага „Журналу беларусаве-

**(Заканчэньне на б. 4-й)**

---

# АЙЦЕЦ А. НАДСОН У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Падарозе з Аўстраліі ў Ангельшчыну, 14 студзеня сёлета а. А. Надсон прыбыў у Лёс Анджэлес і быў спатканы, як дарагі госьць. Увечары адбылося прыемнае прыватнае прыняцьцё. На наступны дзень а. Надсон пазнаёміўся зь сьвятаром украінскае царквы ды ўзгодніў зь ім час асобнае для Беларусаў нядзельнае багаслужбы. Была выкарыстаная нагода таго-ж дня, каб азнаёміцца з горадам, а пад вечар адбылася сустрэча ў суседнім горадзе зь беларускім духоўнікам дзеля абмену зацікаўленьнямі й друкаванымі выданьнямі.

У нядзелю ў украінскай грэка-каталіцкай царкве ў Галівудзе а. Надсон адслужыў для Беларусаў багаслужбу, на якой былі як каталікі, гэтак і праваслаўныя, а таксама некаторыя ўкраінскія грэка-каталікі.

На супольным абедзе ў гонар гасьця ў ведамым францускім рэстаране „Тайкс" а. Надсона вітаў і пра ягоную вартасную працу гаварыў сп. Ч. Найдзюк. Айцец Надсон падзяліўся ўражаньнямі ад свайго наведаньня Аўстраліі й Новае Зэляндыі, а таксама гаварыў пра важнасьць справы ўтрыманьня незалежнае Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Ф. Скарыны ў Лёндане. На гэтую мэту былі сабраныя грашовыя ахвяры. У часе разьвітаньня з а. Надсонам чуліся выказваньні задаваленьня ад сустрэчы і ўдзячнасьці гасьцю.

Па наведаньні ўнівэрсытэтаў у Бэрклі й Станфардзе, дзе ён выступаў з дакладамі, а. Надсон вярнуўся 19-га назад у Лёс Анджэлес, спатыкаўся далей зь Беларусамі, а 20-га студзеня адляцеў у Лёндан Для ўсіх у Лёс Анджэлесе гэта была вельмі прыемная й карысная сустрэча.

**Н.**

---

**НЯПОЎНАЯ СПАДЧЫНА Я. КУПАЛЫ**

„Так, паводля падлікаў В. Рагойшы, у апошні Збор твораў Купалы не ўвайшлі, апрача п'есы ‚Тутэйшыя', 79 вершаў і вершаваных перакладаў, 76 публіцыстычных артыкулаў і выступленьняў, 4 празаічныя пераклады".

**Алег Лойка, „Полымя", 1982, № 9, б. 214.**

---

**Чытайце, выпісвайце,**
**пашырайце газэту Беларусаў**
**„Б Е Л А Р У С"**

## КУПАЛА-КОЛАСАЎСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ

(Заканчэньне з б. 3-й)

кладна зьмест твораў, але таксама захаваць іхную непаўторную форму. Як ёй удалося разьвязаць гэтыя пытаньні, удзельнікі мелі нагоду аценіць самі на вечары паэзіі, якім закончыўся сэмінар і на якім было прачытана больш за 30 вершаў беларускіх песьняроў у перакладзе ў ангельскую мову, у тым ліку вялікія ўрыўкі паэмы „Безназоўнае" Купалы й разьдзелы паэмаў „Новая зямля" і „Сымон музыка" Коласа.

У часе сэмінару ў музэйнай залі Бібліятэкі імя Францішка Скарыны была наладжаная выстаўка, прысьвечаная Купалу й Коласу. Сярод экспанатаў зварачалі на сябе ўвагу рукапісы беларускіх песьняроў, у тым ліку аўтографы паэмы „Курган" Купалы і ягонага нідзе дагэтуль не друкаванага вершу „Хаўрусьнікам" (1913 г.).

З Коласаўскай спадчыны на выстаўцы былі паказаны уступ да паэмы „Сымон музыка" і незакончаны верш „Антону Луцкевічу", напісаны напэўна недзе ў канцы 1920-тых гадоў.

У ваддзеле першых выданьняў наведвальнікі маглі пабачыць такія рэдкасьці, як „Жалейка", „Адвечная песьня", „Сон на кургане", „Шляхам жыцьця", „Раскіданае гняздо" і „Спадчына" Янкі Купалы, а таксама „Родныя зьявы", „У палескай глушы" і „Сымон Музыка" Якуба Коласа. У іншых аддзелах былі прадстаўлены міжваенныя й эміграцыйныя выданьні твораў песьняроў, новыя й юбілейныя выданьні, у тым ліку пераклады ў іншыя мовы, а таксама літаратураведныя й крытычныя дасьледваньні іхнай творчасьці.

Сэмінар пачаўся а 11 гадз. раніцы ды вёў сваю працу блізу да поўначы. Гэта было б немагчымым бяз выдатнай дапамогі сп-няў Алены Міхалюк, Марыі Дзейка і матушкі Пякарскай, якія ўзялі на сябе клопат аб сілкаваньні ўдзельнікаў. Усе аднагалосна згадзіліся, што зрыхтаваныя імі стравы мелі ў сабе таксама шмат паэзіі.

Матар'ялы сэмінару будуць выдрукаваныя ў чарговым нумары англамоўнага „Журналу беларусаведы".

## КУПАЛА-КОЛАСАЎСКАЯ ВЫСТАЎКА

Як паведамлялася ў папярэдніх нумарох „Беларуса" (303-304, 305), летась у верасьні ў Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэцы, што на рагу 5-га авэню і 42-ой вуліцы, была адчыненая выстаўка, прысьвечаная стагодзьдзю беларускіх песьняроў, Купалы й Коласа. Цяпер месяц люты 1983 г. і выстаўка ўсё яшчэ адчыненая для публікі. Нядаўна мы мелі нагоду пагутарыць з заступніцай загадчыка Славянскага Аддзелу бібліятэкі сп-няй Зорай Кіпель аб выстаўцы й рэакцыі наведвальнікаў на яе.



**Сп-ня Зора Кіпель і фрагмэнт выстаўкі, прысьвечанай Я. Купалу й Я. Коласу ў Нью-Ёркскай Гарадзкой Бібліятэцы.**

**Пытаньне „Беларуса":** Выстаўка, як паведамлялі прэсавыя камунікаты летась, была заплянаваная на тры месяцы. Аднак, з прыемнасьцю сьцьвярджаем, што купала-коласаўская выстаўка ўсё яшчэ адчыненая для публікі. Што гэтаму прычына?

**Адказ:** Выстаўка аказалася папулярнай ды інфарматыўнай і прыцягвае шмат наведвальнікаў — а гэта-ж асноўная мэта выстаўкі, — дык таму яна й прадоўжаная.

**П.:** Мяркуючы па водгуках у друку, выстаўка, як выглядае, была шырака рэклямаваная й адзначаная, што, праўдападобна, таксама спрыяла посьпеху выстаўкі?

**А.:** Гэта правільна. Водгукі на выстаўку, агляды яе былі ў друку славацкім, расейскім, польскім, украінскім, англамоўным і, бязумоўна, беларускім. Трэба зазначыць, што адгукнуўся на выстаўку й друк савецкае Беларусі: у газэтах „Зьвязда", „Советская Белоруссия", „Голас Радзімы" — праз агенцтва ТАСС. Калі ход пра бібліятэчную рэкляму, дык кажная імпрэза бібліятэкі рэклямуецца аднолькава: рассылаюцца сотні прэсавых камунікатаў, бібліятэчныя бюлетэні, тэлефанічныя паведамленьні.

**П.:** Хто наведвае выстаўку?

**А.:** Наведвальнікаў выстаўкі можна згрупаваць гэтак: шырокі англамоўны чытач, дасьледнік-славянавед, студэнты. У асобную групу трэба вылучыць Беларусаў, якіх было вельмі шмат з розных штатаў і з розных пакаленьняў. Нямала было наведвальнікаў-Беларусаў і з савецкае Беларусі, а таксама зь Беласточчыны. Пару разоў наведала выстаўку і беларуская дэлегацыя на Генэральную Асамблею Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Трэба, дарэчы, адзначыць, што беларуская дэлегацыя пры ААН падаравала бібліятэцы нямала каштоўных матар'ялаў з купала-коласаведы ды юбілейныя мэдалі.

**П.:** Якія былі заўвагі наведвальнікаў?

**А.:** Усе камэнтары бяз выключэньня былі вельмі дадатныя, хоць, часам, з рэчовымі заўвагамі і крытыкай.

**П.:** Што крытыкавалася?

**А.:** Прыкладам, падчас наведваньня аднэй савецкай групай, было заўважана, што подпіс пад п'есай Купалы „Тутэйшыя" — паясьняльны тэкст кажа, што п'еса „Тутэйшыя" ў савецкай Беларусі забароненая — не адпавядае праўдзе, бо п'еса гэтая, маўляў, ставіцца.

Наш адказ на гэта быў, што калі ў нас будзе савецкае выданьне „Тутэйшых", а ня толькі выданьне „Бацькаўшчыны", дык мы ахвотна паправім надпіс, а пакуль што кніжка выдавецтва „Бацькаўшчына" — адзіная.

**П.:** Выстаўка, прысьвечаная юбілею Коласа й Купалы, праўдападобна, адна з самых папулярных беларусаведных выставак, але яна ня першая, і, будзем спадзявацца, не апошняя ў справе рэклямаваньня беларускае культуры Нью-Ёркскай Бібліятэкай?

**А.:** Ад пачатку 50-х гадоў наша бібліятэка арганізавала блізу два дзесяткі выставак чыста беларусаведных і выставак, дзе выстаўляліся беларускія матар'ялы. А гэта — выстаўкі „Каляды на Беларусі", „Вехі Беларускае Літаратуры", „Беларуская Лацінка", „Угодкі Акадэміка Яўхіма Карскага", „Мовы Сьвету—Беларуская Мова" ды інш.

## КАБ НЕ ЗАГУБІЛАСЯ Й НЕ ЗАБЫЛАСЯ

**(Савецкія абвінавачаньні Коласу й Купалу)**

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва друкуе кніжку **„Якуб Колас і Янка Купала ў беларускім нацыянальным друку, заходніх мовах ды перакладах: бібліяграфія".** Укладальнікі бібліяграфіі, Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель у прадмове зазначаюць, што яны імкнуліся зарэгістраваць усё, што друкавалася пра Якуба Коласа й Янку Купалу на Захадзе ў беларускай мове ды ў іншых мовах, пераклады твораў паэтаў у заходнія мовы (робіцца гэта упяршыню) ды ў меру магчымасьцяў ахапіць бібліяграфіяй тыя большыя працы пра Коласа й Купалу, якія друкаваліся ці ў БССР, ці ў былой Заходняй Беларусі, аднак у савецкіх бібліяграфіях або зусім не ўспамінаюцца, або падаюцца няпоўнасьцяй.

Пра некаторыя з такіх працаў аб паэтах, дзе выказваюцца пагляды савецкае літаратурнае крытыкі ды савецкае ўлады наагул на творчасьць паэтаў, працаў, якія аднак у сяньняшнім савецкім друку замоўчваюцца, зьнічаваюцца, заблітваюцца, ці рэдчас цытуюцца з шматкроп'ямі, укладальнікі ўважалі за патрэбнае нагадаць, **каб не загубіліся й не забыліся.** Вось некаторыя найцікавейшыя мясьціны з гэтых працаў:

***

„Калі пачалася рэвалюцыя — Купала ня здолеў адразу адгукнуцца на яе. Дый ня дзіва. Купала ня здолеў зразумець рэвалюцыі, няўхільнасьці перарастаньня яе ў рэвалюцыю сацыялістычную. Не зразумеў ён і надзвычайнае складанасьці падзей, не зразумеў тае непарыўнае сувязі паміж нацыянальным і сацыяльным вызваленьнем, якая робіць адно немагчымым бяз другога. Гісторыя разгортвалася зусім ня ў той бок, у які спадзяваліся цягнуць яе нашаніўцы. Нацыянал-лібэральнае народніцтва пазбавілася ўсялякае глебы пад нагамі. У гэтым мабыць прычына доўгага маўчаньня Янкі Купалы. Толькі ў канцы 1918 году бярэцца зноў Купала за творчую працу... Але ён ня бачыць сапраўдных ворагаў беларускіх працоўных, тых канкрэтных ворагаў, якія пад выглядам змаганьня за „нацыянальныя ідэалы" змагаюцца фактычна за тое, каб ні польская ні расейская, але акурат беларуская буржуазія эксплёатавала рабочых і сялян... Не адразу зразумеў Купала Вялікага Кастрычніка, ня здолеў ён захапіцца пафасам змаганьня за сацыялізм. Ня вабілі яго шырокія пэрспэктывы сусьветнае камуністычнае рэвалюцыі, ня бачыў ён, не адчуваў сталёвых крокаў гісторыі, ня мог бачыць, ня мог адчуць, бо лібэральна-народніцкі нашаніўскі туман засьцілаў яму вочы, хаваў ад яго сапраўдны стан рэчаў..."
(Ян Дораг, 25 год творчае працы. **„Чырвоная Беларусь"**, Менск, 25 мая 1930, б. 17-19)

***

„Ня так даўно Янка Купала, юбілей якога сьвяткаваўся ў Беларусі і Комакадэміяй, пускаецца на адкрытую нацыянал-дэмакратычную правакацыю, зьмяшчаючы ў сваім зборніку, прысьвячоным яго юбілею, верш, які быў напісан у гонар прыходу Пілсудзкага на Беларусь і зьмешчаны ў буржуазна-нацыяналістычнай газэце „Звон" 17 верасьня 1919 году... Купала з тэксту 1919 году выпускае радкі... выкінуўшы радкі, Купала не мяняе сэнсу вершу...

Ня бяз цікавасьці і такая дэталь, што верш зьмешчаны ў зборніку пасьля „Інтэрнацыяналу", перакладзенага Купалай на беларускую мову.

Такое правакацыі ў 1930 г. мы, зразумела, не чакалі, нават ведаючы ўсё цёмнае мінулае паэты."
(О. Канакоцін, Абвастрэньне клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры... **„Маладняк"**, Менск, № 12, сьнежань 1930, б. 103-127)

***

„...П'еса „Перамога" была перамогай пралетарскіх тэндэнцый на тэатры. Антыподам была п'еса „Тутэйшыя" Я. Купалы ў пастаноўцы Папова (даведзеная, паміж іншым, толькі да генэральнае пробы і зьнятая з прычыны пратэсту савецкае грамадзкасьці), у якой была праведзена цалкам і поўнасьцю нацыяналістычная тэорыя „самабытнасьці". „Усее вы аднолькавыя: і белапалякі, і немцы, і бальшавікі, усе вы — толькі акупанты, якія ня дбаеце асабліва пра краіну; вось толькі „тутэйшы" зьяўляецца шчырым чалавекам!"
(Алесь Некрашэвіч, **Беларускі Першы Дзяржаўны Тэатр, 1920-1930.** Менск, Белдзяржвыдавецтва, 1930, 45 б.)

***

„Побач з пастаноўкамі цалкам прыемлімых намі п'ес, тэатр ставіў такія пастаноўкі, як: „Тутэйшыя" Янкі Купалы, „Скарынін сын з Полацку" М. Грамыкі, „Вір" Рамановіча, „Кастусь Каліноўскі" Міровіча, „Змрок" Шашалевіча. П'есы, і асабліва першая (гэта палітычны пасквіль), вытрыманы ў махрова-нацыяналістычных тонах, накіраваны сваім гастрыём супроць нас."
(Ул. Гурскі, Клясавая барацьба ў мастацтве. **„Маладняк"**, № 1, 1931, б. 109-115)

***

„Мы мелі за гэты час вельмі шмат прац клясава-варожых выступленьняў у другой галіне культурнага будаўніцтва... У нашых тэатрах часта ставілі п'есы, якія былі накіраваны супроць дыктатуры пралетарыяту. Напрыклад, ставілі п'есу (праўда, яна ня доўга бачыла сьвет) Янкі Купалы „Тутэйшыя" — контррэвалюцыйны пасквіль супроць савецкае ўлады.

...у літаратурных арганізацыях мы мелі і маюцца да гэтага часу клясава варожыя выступленьні. Возьмем, напрыклад, творы народнага паэта Янкі Купалы, выданы ў 1930 годзе... пісаны яны, праўда, раней.

Адзін верш напісаны ў час прыезду Пілсудзкага ў Менск і ў час акупацыі БССР белапалякамі. Гэты верш Купалы прысьвячаны Пілсудзкаму і называецца ён „Паўстань"... паводле вершу Янкі Купалы Пілсудзкі зьяўляецца беларускім прарокам, якога гісторыя заклікала стаць на варце межаў беларускага краю.

У 1921 годзе на Генуэзскую канфэрэнцыю быў запрошаны т. Ленін. І вось на гэтыя запросіны Янка Купала ў 1922-23 напісаў верш пад назвай „Пазвалі Вас". У гэтым вершы Купала піша:

Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біць цароў, —
Зрабілі з вас гаспадароў.
І вы з рабоў пашлі ў цары:
— О, каб ня ў краты толькі з крат?!
Паклон аддаў вам азіят.
І ўсё вы ўзялі, ўсё, як ёсьць:
Фабрычны дым, сяўбы загон,
І панскі двор, і царскі трон...
Ды стала ўсё вам гэта ў злосьць
У хлебе восьць, у горле косьць. —
Сабою самі ўстаць з руін
Вам не хапіла смагі, сіл,
І вось к вам вылез цень з магіл:
Крывавы грош і „гаспадзін",
А іх закон адзін, адзін.
З-пад ног, з утоптанай нары
Паўзе ўжо збэшчаны павук.
І ў сто, у сто кагцістых рук
Хапае вас, рабы-цары...

З гэтага вершу відаць, што Янка Купала не агітуе за савецкую ўладу, за бальшавікоў, а агітуе супроць пралетарскай дыктатуры. Такіх вершаў у Янкі Купалы можна знайсьці шмат."
(А. Платун, Становішча культурнага сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР. **„Камуністычнае выхаваньне"**, Менск, № 2, люты 1931, б. 10)

***

„Дзейнасьць нацдэмаў паказала нам, што яны досыць вялікую ўвагу аддавалі і нашым дзецям. Яны стараліся пасеяць сваю контррэвалюцыйную атруту і сярод вучнёўскай моладзі. Адным са сродкаў у змаганьні за дзяцей была і літаратурна-дзіцячая кніжка, галоўным чынам падручнік. Дзіцячыя пісьменьнікі Чукоўскі, Хармс, Маршак і інш. ствapылі багатую буржуазную літаратуру... У Беларусі такога роду кніжка пераважала над другімі патрэбнымі і карыснымі кніжкамі... у нас выдаюцца кніжкі „Гаспадарка" З. Бядулі, казкі ў апрацоўцы Якуба Коласа, перавыдаюцца казкі з нацыяналістычнага буржуазнага дзіцячага часопісу „Зорка"... Дзіцячыя кніжкі Я. Коласа і З. Бядулі, якія напісаны імі раней, зусім устарэлі для нашага часу. Трэба спадзявацца, што і Я. Колас і З. Бядуля ў далейшым дадуць нам новыя, высока-мастацкія і ідэолёгічна-вытрыманыя дзіцячыя кніжкі."
(А. Якімовіч, Праблемы сучаснай дзіцячай літаратуры. **„Камуністычнае выхаваньне"**, Менск, № 3-4, сакавік-красавік 1931, б. 65, 67, 78)

***

„Пад адмоўнымі бакамі творчасьці Купалы першага перыяду, мы разумеем наяўнасьць досыць моцнага струменю містыцызму, папоўшчыны, нацыяналізму, талстоўскай пакорнасьці, варожасьці да гораду, рамантызацыі фэадальнага мінулага і г.д. Усе гэтыя рысы ёсьць ужо ў „Жалейцы" і „Гусьлярах", але нарастаюць асабліва ў такіх пазьнейшых творах Купалы, як „Адвечная песьня" (1910), „Раскіданае гняздо", „Сон на кургане" (1913), філязофія якіх лягічна прывяла Купалу да слаўтага вершу „Прарок", ахарактарызаванага Д. Бедным „змеиным шипом" супроць пралетарскай рэвалюцыі...

1917 год наогул ня выклікаў у паэты творчага ўздыму і не пакінуў прыкметных арыгінальных сьлядоў у яго паэзіі. Для нас-жа нясумненна тое, што прычыны тут былі ідэйна-клясавага парадку. Янка Купала — прадстаўнік дробнабуржуазнай дэмакратыі, ня бачыў таго, што „народ" ужо даўно страціў свой „па-за клясавы" характар... Канец 1918 году — гэта пэрыяд гераічнай барацьбы Чырвонай арміі рабочых і сялян Беларусі... Гэта барацьба скончылася перамогай рэвалюцыі... Як адгукнулася Купалава „ліра" на гэтыя падзеі? Ня будзе паклёпам на паэту, калі мы скажам, што ў ёй не знайшлося адпаведных струн, каб засьпяваць ва ўнісон з пераможнай песьняю рабочых і сялян Беларусі. У ёй, яго ліры, знайшліся струны, або па-ранейшаму мінорныя, або смутна-сымбалічныя, у лейт-матыве якіх усё-ж можна было пачуць незадаваленьне і няпрыхільнасьць...

У савецкі пэрыяд творчасьці Янка Купала напісаў нямнога і, скажам адкрыта, напісанае ім — ня ёсьць лепшае ў яго „спадчыне"... у сваіх вершах ён гаворыць старымі словамі, а часам і думкамі: мы зараз ведаем, чаму не магло быць і ня было ў яго поўнага і яснага разуменьня савецкай рэчаіснасьці."
(Р. Красьнеўскі, 50-ці гадовы шлях Янкі Купалы. **„Чырвоная Беларусь"**, Менск, верасень 1932, б. 11-12)

***

„...у выніку барацьбы з контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і ўсялякімі хістаньнямі сярод некаторых нашых паэтаў і пісьменьнікаў, — барацьбы, у якой мужнела і крэпла пралетарская мастацкая літаратура, — на сёньняшні дзень мы маем рашучы паварот да пралетарыяту такіх паэтаў і пісьменьнікаў як Янка Купала, Якуб Колас і іншых так званых „нашаніўцаў"."
(А. С-ка, Беларуская мастацкая літаратура за 15 год. **„Чырвоная Беларусь"**, Менск, кастрычнік-лістапад 1932, б. 5)

***

„Мы ведаем Янку Купалу і Коласа як людзей, якія мелі ў мінулым сур'ёзныя нацдэмаўскія памылкі... Я думаю, што я маю права за іх сказаць: яны становяцца іншымі людзьмі ў палітычных і іншых адносінах. Гэта факт, на гэта вочы закрываць ня трэба. Я прама аб гэтым гавару ў іх прысутнасьці. Сёньня Янка Купала — гэта ня той чалавек, які быў некалькі год таму назад... А вы думаеце, што толькі зьезд зрабіў іх такімі? Гэта работа партыі ў цэлым і ваша-камуністаў-пісьменьнікаў, а таксама воля і жаданьне іх саміх перабудавацца, пераглядзець свой палітычны творчы шлях на аснове гістарычнага рашэньня нашай партыі аб рабоце пісьменьніцкіх арганізацый."
(Н. Ф. Гікала, За літаратуру, вартую эпохі Сталіна. У кнізе: **Пісьменьнікі БССР на І-ым Усесаюзным З'ездзе Савецкіх Пісьменьнікаў**, кніга другая, Менск, ДВБ-ЛіМ, 1935, б. 14)

***

Вось першая нізка некаторых выказваньняў пра Купалу й Коласа ды іхнае стаўленьня да савецкае ўлады, якія гучаць моцным дысанансам на фоне сёньняшняга імкненьня гэтае ўлады зрабіць зь беларускіх нацыянальных бардаў савецкіх трубадураў.

**В. Зубкоўскі**

## КУПАЛІЯНА ПАЎКРАІНСКУ

Даўны прыяцель Беларусаў, актыўны перакладчык і пашыральнік беларускае паэзіі, украінскі паэт, рэдактар і выдавец Леанід Палтава пераклаў да 100-годзьдзя ад нараджэньня Янкі Купалы колькі Купалавых забароненых у Савецкім Саюзе вершаў, што былі зьмешчаныя з анатацыямі ў выдаваных у Нью Ёрку двумесячніку „Наш Світ" № 6, 1982 (верш „На схід", урывак зь вершу „Над Нёманам") і газэце „Українське Народне Слово" №17, 1982 („На схід" і ўрывак зь вершу „Забраны край") ды ў часапісе „Вісник" № 5, 1982 (урывак зь вершу „Я ад вас далёка").

У часапісе „Наш Світ" № 5, 1982 была зьмешчаная таксама нататка пра стагадовы юбілей Янкі Купалы. Аўтар інж. Паўло М. ілюстраваў сваю нататку цытатамі з Купалавых вершаў у перакладзе Леаніда Палтавы.

## НА КАЛЯДНЫМ ФЭСТЫВАЛІ

Упяршыню ўдалося беларускай групе падрыхтаваць калядную праграму й выступіць 18 сьнежня 1982 году на эстрадзе чыкагаўскага Музэю Навукі й Індустрыі. Дзякуючы намаганьням ды карпатлівым стараньням сп-ні Веры Рамук, сакратаркі Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, удалося зарганізаваць хор. Далучыліся да хору таксама й Амэрыканцы.



**Сп-ня Эўдакія Жызьнеўская ўручае ляльку свае работы сп-ні Бэрніс Мартын, аднэй зь кіраўнічак Каляднага Фэстывалю ў часе афіцыйнага адчыненьня сьвяткаваньня.**

Не зважаючы на кароткі час, які харысты мелі на зрыхтаваньне праграмы, ахвота й энтузіязм дапамаглі адолець усе цяжкасьці — для адных тэхнічныя, для іншых моўныя.

Наша калядная праграма была прымеркаваная для азнаямленьня гледачоў зь беларускімі калянымі звычаямі. Была зробленая вялікая калядная зорка з электрычнай ілюмінацыяй і сцэнкай Раства Хрыстовага.

**Хор калядоўшчыкаў на сцэне ў Музэі Навукі й Індустрыі ў Чыкага на беларускай праграме 18. XII. 1982 г.**

Праграма пачалася кароткім інфармацыйным дакладам у ангельскай мове, прачытаным сп-чнай Ірэнай Рамук, пра Беларусь і калядныя звычаі. Быў паказаны беларускі культурны фільм. Усьлед за гэтым ішла вакальна-музычная частка, што ўключала пяць беларускіх калядак: „Нова радасьць стала", „Ой, на моры, моры", „Неба і Зямля", „Саўка ды Грышка" і ,Ціхая ноч".

Цырымонія выхаду калядоўшчыкаў на сцэну пачыналася ад дзяўчынкі ў нацыянальнай вопратцы, што несла напіс краіны — „Беларусь". За ёю хлопчык, таксама ў народным касьцюме, нёс напіс з традыцыйным калядным й навагодным прывітаньнем.

Бачыць упяршыню наш хор на сцэне музэю было надзвычай прыемна: вясёлыя твары, звонкія галасы ды прыгожыя нацыянальныя касьцюмы. Хорам кіраваў памайстроўску сп. Амброўс Сэрс (Sirs), а акампаніяваў на акардыёне, натхнёна і ўрачыста, сп. Язэп Мала.

Заслугоўвае на ўвагу аранжыроўка калядкі „Саўка ды Грышка", а менавіта акампанімэнт на флейце, выкананы сп-няй Маршай Дэкс (Dix), а на акардыёне сп. Малам ды таксама солё прыпеўкі, выкананае сп. Томам Дэксам. Гучнымі воплескамі ўзнагародзіла публіка харыстаў.

Нельга не адзначыць тут і цудоўнага выгляду беларускае ялінкі, што стаяла, як казачная прыгажуня. У часе адкрыцьця Каляднага Фэстывалю сп-ня Эўдакія Жызьнеўская дэманстравала ля нашай ялінкі тэхніку апрананьня лялькі ў нацыянальны касьцюм. Каля ялінкі быў выкладзены даведачны матар'ял пра Беларусь з сучаснай картай краіны. Паводля водгукаў наведвальнікаў і прысланых пасьля лістоў, нашая ялінка вырозьнівалася сваймі непаўторна прыгожымі дэкарацыямі й аздобамі.

Нашая калядная праграма, разам з гэткімі-ж праграмамі іншых этнічных групаў, была запісаная на йстужку аднэй з чыкагаўскіх радыястанцыяў ды будзе пушчаная ў продаж на касэтках увосень сёлета, а таксама будзе перадавацца радыястанцыямі па цэлай Амэрыцы.

Калядны Фэстываль трываў ад 20-га лістапада летась да 9-га студзеня сёлета. Між іншага, у мэню этнічных страваў быў уключаны беларускі журавінавы кісель.

Гэтта трэба нагадаць, што ўжо пяць гадоў узапар як нашая група бярэ ўдзел у Калядным Фэстывалі.

Трэба выказаць падзяку: сп-ні Веры Рамук за арганізаваньне хору й за адказнае вядзеньне ўдзелу нашае групы ў Фэстывалі; сп. Амброжаму Сэрсу, кіраўніку хору; акардыяністу Язэпу Малу; харыстам Любе й Тані Мішчанчук, Тарэзе Тарасэвіч, Маршы й Тамашу Дыксам, Ніне Кулагін, Аньне Зэпка-Вярызе, Янку Навагродзкаму, Гэнрыку Сянькевічу, Нікадыму Жызьнеўскаму, Міхасю Махначу, Кастусю Пупу, Міхасю Каленіку ды маладняку Натальцы, Юрку й Міхаську, а за зробленьне прыгожай зоркі — сп. сп. Г. Сянькевічу й Н. Жызьнеўскаму.

**Др. Вітаўт Рамук**

## НА МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

Наш стэнд на міжнароднай выстаўцы ў Чыкага, што адбылася 13-14 лістапада 1982 г., вызначаўся жанравай разнастайнасьцяй: былі выстаўленыя разьба па дрэве, інкрустацыя саломкай, вышыванкі, ткацтва, паясы, лялькі зь лёну й вышываныя ды іншыя экспанаты самадзейнага мастацтва. Асаблівую цікавасьць у наведвальнікаў выклікалі арнамэтны на нашай ялінцы, спасярод якіх саломкавыя аздобы ў форме розных геамэтрычных камбінацыяў, непаўторна прыгожых, непадобных адна да аднае, былі запраўды шэдэўрам, паводля агульнага прызнаньня.




**Частка беларускага стэнду на міжнароднай выстаўцы ў Чыкага 13-14. XI. 1982 г.**

Стагадовы юбілей нашых літаратурных волатаў Янкі Купалы й Якуба Коласа быў адзначаны ў Чыкага ўжо другі раз. На выставачным стэньдзе ладнае месца было адведзенае творам нашых нацыянальных песьняроў, калекцыі здымкаў, што ілюстравалі іхны жыцьцёвы шлях.

Між іншага, пераклады Купалавага вершу „А хто там ідзе?" у 19-ёх мовах былі аб'ектам зацікаўленьня ў наведвальнікаў. Асабліва нашыя „этнічныя" суседзі прыхільна ставіліся да ўрачыста прымеркаванага адзначэньня юбілеяў ды прасілі прыслаць ім копіі зь перакладамі вершу.

На гэтым месцы выказваем шчырую падзяку сп-ні Зоры Кіпель, якая прыслала даведачны матар'ял, зьвязаны зь юбілеем Янкі Купалы й Якуба Коласа, а таксама пераклады вершу „А хто там ідзе?".

Трэба зазначыць, што наш стэнд і даведачны матар'яў аб Беларусі, а таксама ўжываньне ў арыгінале назову краіны ў ангельскай мове ды дэтальная геаграфічная карта паслужылі добрым сродкам інфармацыі. Дарэчы, было прыемна бачыць маладых Амэрыканцаў і Амэрыканак, што выпытвалі дакладна пра мясцовасьці паходжаньня іхных дзядоў ці бацькоў на Беларусі. Як бачым, наш стэнд споўніў сваю ролю з гэтага гледзішча ды выклікаў зацікаўленьне ў наведвальнікаў пра сваю этнічнасьць — зьява, што пашыраецца цяпер сярод амэрыканскай публікі.

Нельга памінуць і кулінарнага боку — емніннага стэнду, наладжанага парахвіянкамі з праваслаўнае царквы сьв. Юр'я ў Чыкага, што сваёй разнастайнасьцяй і прысмакамі задавальняў смак наведвальнікаў. Трэба тут адзначыць, што мэню нашай кухні, разам зь некаторымі іншымі, было зьмешчанае ў газэце „Чыкага Трыбюн".

За ўдалае ўладжаньне нашага стэнду й падбор экспанатаў ды за інфармаваньне наведвальнікаў належыцца падзяка кіраўніку стэнду сп. Нікодыму Жызьнеўскаму, сп-тву Антону й Люні Бяленісам, сп-ні Ірэне Пануцэвіч, Веры й Ірэне Рамук, Васілю, Маргарэце й Габрыелі Багданам, Мікалаю Кучуру й Паўлу Сянькевічу.

**Др. Вітаўт Рамук**

*МІКОЛУ НІКАНА*

*Шматгадовага й няўтомнага супрацоўніка газэты „Беларус" ды актыўнага папулярызатара роднага друкаванага слова шчыра вітаем зь 75-мі ўгодкамі жыцьця й жадаем яму добрага здароўя ды ўсякае памыснасьці на будучыню.*

*Рэдкалегія газэты „Беларус"*

## ПЯТАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

Пятая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі адбылася ў Сыднэі ад 29-га сьнежня 1982 г. да 2-га студзеня 1983 г. й была прысьвечаная 100-годзьдзю ад нараджэньня беларускіх волатаў духу Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Першага дня ўдзельнікі Сустрэчы зьяжджаліся найбольш з Адэляйды й Мэльбурну й закватэроўваліся ў знаёмых у Сыднэі. Прадстаўнікі з Мэльбургу наведалі ў шпіталі хворую сп-ню А. Каранеўскую ды пажадалі ёй выздараўленьня.

30-га сьнежня ў вялікай нанятай залі „Грайстайнс Комюніты Сэнтэр" сп. К. Станкевіч, старшыня Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, афіцыйна адчыніў Сустрэчу. Сп. М. Лужынскі, старшыня арганізацыйнага камітэту Сустрэчы, прачытаў атрыманыя прывітаньні, а сп-ня З. Кадняк (жонка сьв. пам. Алеся Салаўя), прачытала атрыманае ёю зь Беларусі прывітаньне ўдзельнікам Сустрэчы й сьвяточныя калядна-навагоднія пажаданьні.

Пасьля ўшанаваньня хвілінай цішыні памерлых грамадзкіх дзеячоў сьв. пам. др. Язэпа Малецкага й Аркадзя Качана, сп-ня Оля Качан, прафэсар Сыднэйскага ўнівэрсытэту, прачытала паангельску зьместоўны даклад, ілюстраваны на экране слайдамі, на тэму „Беларускае адраджэньне".

Па кароткім перапынку пачаўся даўгі й вельмі багаты зьместам канцэрт. Канфэрансье сп. М. Лужынскі вясёлымі жартамі разьвесяляў поўную залю (каля 180 асобаў) гледачоў.

Выступалі па чарзе прадстаўнікі Адэляйды й Мэльбурну, але найбольш адэляйдаўцы. Сьпявалі, танцавалі (чатыры пары маладых), дэклямавалі. Гледачы білі ўсім „брава", асабліва маленькім Лары й Юльляну Кандрусікам, што сьпявалі й танцавалі пад акардыён іхнага бацькі Міколы. Білі „брава" й сп. В. Зялінскаму з Адэляйды за ягоныя даўгія й мастацкія дэклямацыі.

Трэба падкрэсьліць, што адэляйдаўцы, пад кіраўніцтвам сп. М. Бурноса, добра падрыхтаваліся да канцэрту й заслужылі на падзяку Сустрэчы.

Па перапынку, у канцэртнай залі адбылася супольная вячэра, прыгатаваная гаспадарамі-сыднэйцамі, на якой спажываньне стравы суправаджалася тостамі за сыднэйцаў, адэляйдаўскіх мастакоў сцэны, пачэсных гасьцей з-за мора: а. Аляксандра Надсона з Ангельшчыны й др. Уладзімера Бакуновіча з Амэрыкі, якія ў гэтым часе гасьцяваў у сваіх у Сыднэі.

Айцец Надсон, дырэктар Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Ф. Скарыны ў Лёндане, на просьбу прысутных, паінфармаваў пра Бібліятэку й Музэй, якія адзін зь Беларусаў Беласточчыны назваў „ваконом у сьвет", ды заклікаў да падтрымваньня гэтых установаў. Праведзеная тут-жа зборка ахвяраў дала 570 даляраў ды павялічылася пасьля яшчэ больш. Айцец Надсон шчыра паддзякаваў ахвярадаўцам.

Дапозна пры сталох вяліся гутаркі, ліліся песьні. Пасьмяшыў сваймі дэклямацыямі й сп. А. Груша з Мэльбурну. Пад канец ахвотнікі й патанцавалі, і ўсе разьяжджаліся з канцэрту вельмі задаволеныя.

Трэйці дзень Сустрэчы, 31-га сьнежня, прайшоў у Беларускім Клюбе на Фэрфільдзе. Адбыліся нарады прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў, сяброў Фэдэральнае Рады Б.А.А. Выканальны Камітэт Фэдэральнае Рады даў справаздачу із свае 2-гадовае дзейнасьці. Далі справаздачы й паасобныя сябры Рады. Падзякаваўшы старому Камітэту, быў абраны новы пад старшынствам сп. М. Шэкі з Мэльбурну.

Таго-ж дня ўвечары ў залі, дзе пачалася Сустрэча, адбыўся навагодні баль. Заля была поўная. У прыемнай, вясёлай атмасфэры быў сустрэты Новы 1983 год.

1-га студзеня (сыбота) цэлы дзень пікнікавалі. Пагода й месца спрыялі. На сьвежым паветры можна было добра адпачыць, пасьпяваць, павесяліцца, патанцаваць.

Назаўтрае ў нядзелю зраньня кожны мог пайсьці, куды жадаў, на багаслужбу. Шкада, што ня выйшла, як плянавалася, каб адбылася супольная багаслужба.

Папаўдні ў Беларускім Клюбе адбыўся рэфэрат а. Надсона пра Янку Купалу й Якуба Коласа.

Па Кароткім перапынку была прынятая рэзалюцыя Сустрэчы.

Тады сп. Я. Ролсан, заступнік старшыні Фэдэральнае Рады Б.А.А. падзякаваў гаспадаром-сыднэйцам за сардэчнае прыняцьцё ды запрасіў усіх на 6-ую Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі, што адбудзецца ў Адэляйдзе за два гады ў часе праваслаўных Калядаў, і фармальна зачыніў Сустрэчу.

Разьвітальная вячэра ў Клюбе трывала доўга й была запраўды прыемная. У часе яе сп. М. Скабей прачытаў атрыманыя з Бацькаўшчыны прывітаньні й сьвяточныя пажаданьні ўдзельнікам Сустрэчы ды яшчэ раз заклікаў дапамагаць Беларускай Бібліятэцы ў Лёндане. З нагоды ўгодкаў нараджэньня М. Нікана, А. Каранеўскае й М. Лужынскага ім былі прасьпяваныя „многая лета", а маладыя Кандрусікі з бацькам на разьвітаньне пацешылі ўсіх яшчэ раз сьпевам і танцамі.

**М. Нікан**

## СП. М. НІКАНУ СПОЎНІЛАСЯ 75

Ведамаму беларускаму грамадзкаму дзеячу сп. Міколу Нікану споўнілася 75 год жыцьця. У цесным крузе сям'і й прыяцеляў 3-га студзеня сёлета сп. Нікан адзначыў свае ўгодкі. Не зважаючы на свой век, сп. Нікан бярэ вельмі актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў Аўстраліі. Ён — сябра рэдакцыйнае калегіі газэты „Беларус", рэфэрэнт вонкавых сувязаў Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, шматгадовы кальпартэр беларускіх выдавецтваў.

Ад імя ягоных шматлікіх сяброў і прыяцеляў ды наагул ад беларускага грамадзтва Аўстраліі жадаю яму яшчэ шмат год жыцьця й плённай працы на нашай грамадзкай ніве.

**А. Калодка**

# СКЛІКАЕЦЦА САБОР БАПЦ

**Ад Рэдакцыі: Ніжэй зьмяшчаем зварот Архіепіскапа БАПЦ Мікалая, прысланы нам Перадсаборнай Камісіяй.**

**Найпачасьнейшаму Мітрапаліту БАПЦ Андрэю,**
**Дастойнаму Духавенству БАПЦ,**
**Хвальным Парахвіяльным Радам**
**і ўсім вернікам БАПЦ**

Дарагія Браты й Сёстры!

Ужо прыйшоў найвышэйшы час, каб мы ўсе ў Царкве сабраліся разам ды супольнымі сіламі вырашылі нашыя царкоўныя праблемы. На мяне, як Заступніка Старшыні Рады БАПЦ, прыпаў цяжкі абавязак скліканьня Надзвычайнага Сабору Беларускай Аўтакефальнай Царквы. Рашэньне склікаць Сабор БАПЦ ня ёсьць лёгкім для мяне, але я ня маю права адкладаць на далей гэтую справу. Трагічнае палажэньне ў Царкве, Статут БАПЦ і каноны Сьвятой Праваслаўнай Царквы змушаюць мяне прыняць гэтае рашэньне сяньня. Прыняўшы прысягу служыць БАПЦ і яе вернікам, я не магу ўхіляцца ад гэтага абавязку ў гэты крытычны мамэнт у яе жыцьці. Ніжэй я падаю дакладней прычыны й законныя падставы для скліканьня Сабору, яго мэту, месца й час.

Ужо амаль тры гады, як Сьвятая БАПЦ цярпіць беспарадкі, ганьбу ў сьвецкіх судох, растрату агульнацаркоўных і парахвіяльных сродкаў. Сяньня гэтае няшчасьце дасягнула свае вяршыні, калі Першы Гіерарх і яго сьвятары судзяць свае парахвіі й сваіх парахвіянаў, забараняюць епіскапам і сьвятарам багаслужэньні і адлучаюць добрых хрысьціянаў і будаўнікоў парахвіяў ад Царквы. За гэты час Першы Гіерарх БАПЦ Мітрапаліт Андрэй, сакратар Кансысторыі а. В. Кендыш і а. Я. Брукці пачалі каля 10-ёх судовых справаў у сьвецкіх судох; сяньня вядуцца адначасна чатыры судовыя працэсы супраць парахвіяў БАПЦ у ЗША й Канадзе.

Праблемы ў БАПЦ пачаліся дзьвума архіпастырскімі распараджэньнямі Мітрапаліта Андрэя ў справе зьмены кіраўнічага парахвіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку, Н. Дж., якія апіраліся на непраўдзівых фактах. І ў далейшым Мітрапаліт Андрэй, замест выконваць свой абавязак кіраваньня Царквою ды сьледаваць Статуту БАПЦ пры разьвязваньні непаразуменьня, дазволіў накіроўваць справу ў сьвецкі суд. Гэтым быў парушаны Статут БАПЦ (пар. 4 і 56) ды каноны Праваслаўнай Царквы (пр. 9 — І Ус., пр. 14 — Карт. і пр. 115 — Карт.). Захады мае ды іншых забраць справу са сьвецкага суда й перадаць у царкоўны суд не далі ніякіх вынікаў.

Суды перакінуліся на іншыя парахвіі БАПЦ; парушэньні Статуту БАПЦ і канонаў Праваслаўнай Царквы прадаўжаліся. У выніку гэтага Мітрапаліт Андрэй поўнасьцю страціў кантроль над Царквою. У гэтых абставінах, каб захаваць цэласьць Царквы, я быў змушаны на просьбы агульных сходаў парахвіяў БАПЦ прыняць часова пад сваю духоўную апеку сьвятыя парахвіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку, Н. Дж. а потым іншыя парахвіі ў ЗША. Гэта часова дало магчымасьць вернікам маліцца ў сваіх храмах, але ня спыніла судовых працэсаў.

Справу скамплікавала нелегальная хіратонія а. Я. Брукцага, якая была грубым парушэньнем Статуту БАПЦ і канонаў Праваслаўнай Царквы. Сьвецкія суды ня могуць вырашыць нашых праблемаў пакуль мы ня выкарыстаем поўнасьцю нутраным спосабам прывілей самакіраваньня.

Судзьдзя Вышэйшага Суду Нью Джэрзі Рычард С. Коган, які за два працэсы добра вывучыў сытуацыю ў нашай Царкве, прыйшоў да высновы, што Сабор БАПЦ — найлепшая магчымасьць для рашэньня праблемаў Царквы. У абліччы фактаў:

парушэньняў Статуту БАПЦ і канонаў Сьвятой Праваслаўнай Царквы;

прадаўжэньня сьвецкіх судоў, што спрычыняюць бязьмерныя духовыя цярпеньні вернікам БАПЦ ды матар'яльна руйнуюць парахвіі БАПЦ ды ўсю Царкву;

страты Першым Гіерархам БАПЦ Мітрапалітам Андрэем кантролі над Царквою ды перадачы, дэ факто, вядзеньня царкоўных справаў у сьвецкія суды;

і поўнай няўвагі да правоў і інтарэсаў вернікаў БАПЦ, —

якія даказваюць, што Мітрапаліт Андрэй, Першы Гіерарх БАПЦ, ня ў стане выконваць свае абавязкі,

я, як Заступнік Старшыні Рады БАПЦ, апіраючыся на 16-ы параграф Статуту БАПЦ, які кажа „У выпадку, калі Першы Гіерарх ня ў стане выконваць свае абавязкі, ці ў выпадку сьмерці, тады абавязкі Першага Гіерарха да часу скліканьня Сабору БАПЦ выконвае ягоны Заступнік", бяру на сябе абавязак скліканьня гэтага Надзвычайнага Сабору БАПЦ.

У скліканьні Сабору БАПЦ я таксама бяру пад увагу ранейшыя звароты парахвіяў БАПЦ у Нью Ёрку, Н.Ё., Гайленд Парку, Н. Дж., Клівлендзе, Агаё, Дэтройце, Міч., Таронце, Ант., і Адэляйдзе, Аўстралія, і таксама прапанову Дарадчай Камісіі пры Архіепіскапу Мікалаю з дня 19-га красавіка 1981 г. ў справе скліканьня Сабору БАПЦ.

Галоўнай мэтай Надзвычайнага Сабору БАПЦ — прыняць меры, каб вярнуць Царкву на законны шлях вядзеньня сваіх справаў згодна са Статутам БАПЦ і канонамі Праваслаўнай Царквы: вярнуць у яе жыцьцё гармонію, давер ды ўзаемную пашану між гіерархамі, духавенствам і вернікамі; спыніць працэс Яе ўпадку ды растрату на суды нешматлікіх матар'яльных сродкаў; забясьпечыць Царкве лепшае будучае, а Яе вернікам — магчымасьць маліцца безь перашкодаў.

Таму, што царкоўныя органы, як Кансысторыя БАПЦ і Рада БАПЦ (зь якой апошнім часам былі бясправна звольнены 7 сяброў, выбраных на Саборы БАПЦ у 1972 г.), перасталі выконваць свае статутовыя абавязкі, я паклікаў Перадсаборную Камісію ў складзе: Мітр. Прат. а. Карпа Стара — старшыні Камісіі, а. Міхася Страпка — заступніка старшыні, сп.сп. В. Русака й А. Сільвановіча — сакратароў Камісіі, і сп.сп. А. Міцкевіча, У. Курылу й А. Лысюка — сяброў Камісіі, ды Статутовую Камісію ў складзе: мгр. В. Пляскача й сп. Ю. Азаркі. Перадсаборная Камісія дапаможа мне ў падрыхтаваньні Сабору, а Статутовая Камісія падрыхтуе папраўкі да Статуту БАПЦ.

**Надзвычайны Сабор БАПЦ адбудзецца ў днёх 28, 29 і 30 траўня 1983 г. у Царкве Божай Маці Жыровіцкай, 3517 Уэст 25 Стрыт у Клівлендзе, Агаё. Пачатак Сабору а гадз. 5-ай папаўдні ў суботу, 28-га траўня.**

**Адносна ўдзелу на Саборы сяброў Рады БАПЦ, дык на Сабор будуць запрошаныя ўсе сябры Рады БАПЦ, што былі выбраныя на Саборы БАПЦ у 1972 годзе.**

Вельмі важна, каб на Надзвычайным Саборы БАПЦ была прадстаўленая ўся Царква Таму неабходна, каб Парахвіяльныя Рады запрасілі на Сходы, дзе будуць выбірацца дэлегаты на Сабор, усіх асобаў, што былі парахвіянамі дадзеных Парахвіяў перад тым як пачаліся суды. На Саборы будзе таксама дадзена магчымасьць выказацца вернікам БАПЦ.

Дык будзем прасіць Усемагутнага, каб благаславіў гэты наш пачын у імя дабра нашай Царквы. Прашу Вашых малітваў і Вашай дапамогі.

23 студзеня 1983 г.
Таронта, Ант., Канада

**З ласкі Бажое Пакорны Мікалай**
**Архіепіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

## ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД У ЛЁНДАНЕ (АНГЕЛЬШЧЫНА)

На гадавым сходзе лёнданскае парахвіі БАПЦ, што адбыўся 12 верасьня летась у Беларускім Доме, была выслуханая справаздача зь дзейнасьці парахвіяльнае рады й даклад а. Я. Пякарскага пра ягоную дзейнасьць як сярод вернікаў БАПЦ, гэтак і на міжнароднай рэлігійнай арэне. Зь вялікім жалем прысутныя выслухалі інфармацыю аб закалоце ў кіраўніцтве БАПЦ у Амэрыцы. Таму было пастаноўлена зьвярнуцца публічна з заклікам да кіраўнікоў БАПЦ:

1. Сьпыніць выпады адзін супраць аднаго ў друку.
2. Пакончыць са сьвецкімі судамі, якія толькі кампрамітуюць БАПЦ.
3. Зрабіць усе захады, каб у як найхутчэйшым часе склікаць Сабор БАПЦ, які-б абладзіў усе гэтыя праблемы й непаразуменьні.

П.Н.

## СЬВ. † ПАМ. АНЕЛЯ КАТКОВІЧ

На 68-ым годзе жыцьця адыйшла ў вечнасьць Анеля, ці як звалі тыя, хто яе добра знаў, Аня Катковіч.

Нябожчыца нарадзілася ў 1914 г. у Будславе, які даў гэтулькі заслужаных перад Бацькаўшчынай людзей. Па сканчэньні пачатковае школы Анеля вучылася ў Віленскай Беларускай Гімназіі, была сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу, а пасьля вывучала мовы на гуманістычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Па сканчэньні вышэйшае асьветы ў 1939 годзе працавала настаўніцай у родным Будславе, а ў часе нямецкае акупацыі была перакладчыцай у Менску. Эвакуявалася зь Менску ў 1944 г. ў Судэты, а пасьля заканчэньня вайны пераехала ў Усходні Бэрлін, а адтуль у заходнюю Польшчу.

Арыштаваная ў 1949 г., Анеля Катковіч была засуджаная на 10 год зьняволеньня, якое адбывала ў сібірскіх лягерох. Звольненая з прычыны хваробы яшчэ да адбыцьця тэрміну, прыехала ў 1955 г. ў Польшчу, у Варшаву. Прабавала працаваць, але неўзабаве перайшла на пэнсію, падрабляючы час ад часу на жыцьцё як машыністка й перакладчыца.

Нябожчыца ведала вельмі добра расейскую, нямецкую, ангельскую й польскую мовы. Гадоў восем таму здолела прыехаць на колькі тыдняў у Лёндан (Ангельшчына), дзе затрымалася ў аа. Марыянаў. Гэта былі для Нябожчыцы тыдні духовага аднаўленьня. У Бібліятэцы й Музэі праседжвала даўгія гадзіны, „набіраючыся", як мне пасьля пісала, „ізноў беларушчыны".

Сібірскія перажываньні фатальна адбіліся на ейным здароўі. Нябожчыца доўга хварэла. На пачатку 1982 г. перабралася да сястры ў Вроцлаў, дзе й памерла. Пахавалі яе на вроцлаўскім могільніку. Праводзілі Нябожчыцу на вечны супачын шмат якія прыяцелі й прыяцелькі з Вроцлава, а таксама суродзічы з Варшавы.

**А. Калодка**

## ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД У АДЭЛЯІДЗЕ (АЎСТРАЛІЯ)

12-га сьнежня 1982 г. адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны сход парахвіі БАПЦ сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Сход адчыніў старшыня парахвіяльнае рады сп. К. Станкевіч, а а. Аўген сказаў малітву й благаславіў сход.

У кароткай справаздачы сп. Станкевіч пералічыў, што на працягу году было зроблена: дзьве нацыянальныя ўрачыстасьці (25 Сакавіка й Дзень Памяці Гэроаў); прастольнае сьвята патронаў парахвіі (на якое былі запрошаныя ўкраінскія сьвятары й вернікі); чатыры забавы (што далі вялікі прыбытак у парахвіяльную касу); адзін пікнік; адбыліся чатыры паседжаньні парахвіяльнае рады. Усё гэта было зроблена супольна зь Беларускім Аб'яднаньнем у Паўдзённай Аўстраліі.

Старшыня падзякаваў усім сябром уступаючае ўправы за адданую працу і ўсім парахвіянам, што дапамагалі ў працы, а таксама падзякаваў сястрыцтву й ахвярадаўцам.

Скарбнік сп. Ул. Шамшурын у сваёй справаздачы адзначыў, што прыбытак за год быў вельмі добры, выдаткі невялікія, і фінансы парахвіі выглядаюць вельмі добра. Сход ухваліў дзейнасьць управы й выказаў усім ейным сябром шчырую падзяку.

У новую ўправу былі абраныя: К. Станкевіч — старшыня, Ул. Акавіты — заст. старшыні, М. Бурнос — сакратар, Ул. Шамшурын — скарбнік, А. Чорнагалан — сябра, Я. Ролсан — рэфэрэнт сувязяў, П. Трысмакоў і М. Рамановіч — царкоўныя старасты. У склад рэвізійнае камісіі ўвайшлі сп. сп. М. Ціховіч, Я. Палюховіч і П. Пачопка.

У пытаньні аб дзейнасьці Епіскапату й Кансысторыі БАПЦ было шмат дэбатаў і розных прапановаў. Бальшынёй галасоў сход пастанавіў, што парахвія й надалей прызнае ўсіх трох Епіскапаў БАПЦ, але кансысторскую аплату тымчасам устрымае, пакуль Мітрапаліт Андрэй ня спыніць сьвецкіх судоў ды не наступіць згода й замірэньне паміж трыма Епіскапамі. Тады толькі ўстрыманыя складкі будуць аплочаныя з працэнтамі.

Сярод бягучых справаў разглядалася пытаньне аб падарожжы на 5-ю Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі ў Сыднэі.

**Янка Яр**

## СЬВ. ПАМ. АРКАДЗЬ КАЧАН

Беларускае Аб'еднаньне ў Новай Паўдзённай Валіі й працаўнікі Беларускага Аддзелу Этнічнага Радыё з глыбокім смуткам і жалем паведамляюць аб сьмерці ўранні 4 сьнежня 1982 г. сьв. пам. Аркадзя Качана. З глыбіні сэрца выражаем нашыя найшчырэйшыя спачуваньні маме Нябожчыка сп-ні Веры Качан, жонцы др. Олі Качан, сыну Юрку з жонкай і шваґру сп-тву Галі й Міколу Сьвідэрскім.

## СЬВ. ПАМ. АРКАДЗЬ КАЧАН

**Нарадзіўся 13 траўня 1921 г., памёр 4 сьнежня 1972 г. у Сыднэі (Аўстралія) — Мой апякун і дабрадзей у часе майго 9-месячнага зьняволеньня ў Вялейцы ў 1943 г. Пакуль буду жыць, не забудуся гэтага й буду заўсёды ўдзячны Табе, Аркадзь.**

**А. Калодка**



**СЬВ. ПАМ. АРКАДЗЬ КАЧАН**

**(13.V.1921 — 4.XII.1982)**

У суботу раніцай 4-га сьнежня мы ў Мэльбурне атрымалі жудасную вестку з Сыднэю аб сьмерці Аркадзя Качана. Нябожчык быў ведамым у Аўстраліі беларускім дзеячам і сябрам аўстралійскага сэктару Рады БНР. Асаблівай ягонай заслугай было зарганізаваньне беларускага аддзелу этнічнага радыё (2Э.А.), якое субсыдыюецца аўстралійскім фэдэральным урадам. Аналягічныя беларускія радыяперадачы былі калісь і ў Мэльбурне — спыніліся аднак дзеля нястачы адпаведных ахвярных людзей. Сыднэйскія беларускія перадачы трываюць адну гадзіну кожнага тыдня. Нябожчык Аркадзь Качан быў каардынатарам (кіраўніком) беларускага аддзелу, у які ўваходзілі звычайна тры-чатыры асобы. Свае абавязкі каардынатара выконваў руплівa й самаахвярна, ягоныя няўтомныя клопаты, каб „усё было добра", у ладнай меры адбіліся на ягоным здароўі. Блізу ўвесь час Нябожчык працаваў на хвабрыцы.

Прамаўляючы 15 чырвеня летась у радыё 2 Э.А. ў сувязі зь сьмерцяй др. Язэпа Малецкага, Нябожчык Аркадзь Качан казаў, што др. Малецкі „ад заранкі свайго жыцьця быў ахвярным для нацыянальнае справы, шчырым і непадкупным Беларусам. Пражыў свой век поўным, цікавым жыцьцём, зьведаў усё і ня страціў свае чалавечае годнасьці. Можа ў тых, што многа й на ўсю моц жывуць і даюць ад сябе многа, — казаў ён, — сэрца хутчэй зношваецца, спрацоўваецца. Ня ведаю, ці гэта так, але зарана адыйшоў ад нас. Такім быў Язэп Малецкі, такім застанецца ў нашай памяці".

У роўнай, а мо нат і большай меры гэтыя словы, прысьвечаныя Малецкаму, тарнуюцца й да Нябожчыка Аркадзя Качана, сэрца якога, сэрца зношанае й перапрацаванае, раптоўна перастала біцца.

Я пазнаёміўся зь Нябожчыкам на пачатку 1942 г., калі ён быў на курсах перашкаленьня каманднага складу Беларускае Самааховы ў Лебедзеве каля Маладэчна. Пазьней я спатыкаўся зь ім напрыканцы таго-ж году ў Вялейцы, дзе ён быў каманьдзерам роты.

На пачатку сакавіка 1943 г. гестапаўцы-Латышы зь ініцыятывы гэтак званага сьледчага аддзелу, на чале якога стаяў Расеец Перамыкін, шукаючы партызанаў, напалі на вечарынку моладзі ў вёсцы Халапы, прадмесьці Вялейкі. П'яныя гестапаўцы ўварваліся ў хату, застрэлілі дзевяць асобаў, дабілі параненых, іншых-жа ўдзельнікаў у ліку каля 30-ёх адвезьлі ў вялейскую турму.

Аб тым, што ўдзельнікі вечарынкі ня мелі нічога супольнага з партызанамі, сьветчыць, між іншага, і той факт, што ўсіх іх хутка з турмы звольнілі.

Беларускае грамадзтва было абуранае гэтай крывавай расправай гестапаўцаў. Паўстала думка прасіць настаяцеля праваслаўнае царквы адслужыць па забітых паніхіду, на якую зьявілася вельмі шмат людзей. Прыйшоў у царкву й Аркадзь Качан, але прыйшлі й двух гестапаўскіх агентаў, на вялікі сорам — Беларусаў. Нябожчык Аркадзь Качан меў пазьней шмат непрыемнасьцяў і ледзь не апынуўся за турэмнымі кратамі.

Па вайне я спатыкаў яго колькі разоў у Рэгензбургу (Заходняя Нямеччына), коратка быў ён маім госьцем у Мэльбурне. Мы ліставаліся часта, маючы шмат супольных зацікаўленьняў.

Ягоная сьмерць, зусім нечаканая, неспадзяваная — гэта й для мяне вялікая асабістая страта.

Кожны мой да яго ліст я канчаў словамі: „Заўсёды Табе ўдзячны". Так, я быў і сяньня застаюся ўдзячны Нябожчыку за ягоную апеку нада мной у часе майго дзевяцімесячнага зьняволеньня ў вялейскай турме ў 1943 г., удзячны за ладжаньне ім інтэрвэнцыі ў маёй справе перад нямецкімі ўладамі, я ўдзячны сьв. пам. Аркадзю Качану, што перажыў вайну. Я не магу знайсьці словаў, якія выразілі-б гэтую ўдзячнасьць.

**А. Калодка**

**

Аркадзь Качан радзіўся ў Барсуках, кілямэтры два ці тры на поўнач ад Докшыц, па гасьцінцы на Каралеўшчыну. Бацька Антон, інтэлігент-настаўнік, у гэны час каратаўся пры земляробстве, а пасьля здабыўся на малую краму пры станцыі ў Пархвенаве.

Калі-б я меў неяк коратка схарактарызаваць Аркадзя, дык пачаўбы гутарку пра адлегласьць. Быў ён мне вельмі блізкі й надта далёкі. Блізкі перш-наперш таму, што сваяк з калена ягонага й майго бацькі, далёкі-ж заўсёды па адлегласьці. Калі я валачыўся зь дзіравай сумкай у мясцовую сямігодку яшчэ, дык ён зубрыў мудрасьць, побач зь Мечыкам Рачыцкім, дый д-рам Станіславам Станкевічам, ажно ў „паньствовай гімназіі" ў Дзісьне. І сяньня мне выразна прыгадваецца, як дзякуючы Аркадзевай маці, маёй хроснай, трапіў мне ў рукі дзісенскі гімназіяльны часапіс, здаецца той самы, які не дапусьціў, як казаў мне пасьля Рачыцкі, аднаго такога вершу пачынаючага паэты:

А пад мостам рыба з хвостам,
І жабы так-жа, а як-жа!

У часапісе гэным студэнты-ж гімназіі пісалі папольску, але вось натрапіў я на Аркадзеў „кавалак", дзе ён апісваў докшыцкі кірмаш. І я быў… Не, нельга сказаць, што я быў зьдзіўлены. Бо такога раней ня чытаў. У гэным кароткім Аркадзевым апавяданьні дзяцюкі й дзеўкі вясковыя, значыцца „тутэйшыя", гаварылі пабеларуску, сьпявалі свае песьні. Вось адно з тых першых зярнятак сваіх, якое рана трапіла ў мой агарод…

Прынамся раз на год Аркадзевы й мае бацькі гасьцявалі ў сябе. Памятаю, як доўга гаварылі пра гаспадарку, сямейныя справы, пчол, дзяліліся ўспамінамі зь „Пітраграду" дзе браты Антон і Ігнась пакінулі маладыя гады. А мы з Аркадзем хадзілі па палёх, садох, гаварылі й марылі, кім-жа будзем, калі вырасьцем…

„Вызвольная" ўлада адно закасала рукавы, каб Аркадзевых і нашых на ўсход штурхануць, калі гэ-

**(Заканчэньне на б. 8-й)**

